# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 34 (1736) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 20 ЖНІЎНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.




Ужо здалёк было відаць, дзе адбываецца Устаноўчы з'езд „Адраджэння".

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ

Калі можна параўноўваць Устаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту за перабудову „Адраджэнне", які праходзіў 24-25 чэрвеня 1989 г. у Вільні, дык толькі з тымі гістарычнымі актамі, што дэманстравалі свету нязломную волю беларусаў да самастойнага нацыянальнага жыцця.

Беларускі народны фронт „Адраджэнне" нарадзіўся 19 кастрычніка 1988 г. падчас Устаноўчага сходу Таварыства памяці ахвяраў сталінізму „Мартыралог Беларусі". На ім прысутнічала каля 350 чалавек з усіх рэгіёнаў Беларусі, гэта былі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, рабочыя, сяляне, студэнцкая моладзь. Тады таксама ўтварыўся арганізацыйны камітэт Беларускага народнага фронту „Адраджэнне". Гэта і быў дзень ягонага нараджэння — падчас балючага роздуму найсвятлейшых прадстаўнікоў беларускага народу над памяццю бязвінных ахвяраў Сталіна-людазабойцы, ягоных паплечнікаў, якія за некалькі дзесяцігоддзяў свайго панавання знішчылі на Беларусі больш 2 мільёнаў чалавек: найвыдатнейшай інтэлігенцыі, найбольш працавітых і свядомых рабочых, самых гаспадарлівых сялян — цалкам абяскровілі наш народ.

„Беларускі народны фронт за перабудову „Адраджэнне" ствараецца дзеля арганізацыі шырокай народнай падтрымкі распачатых лепшымі сіламі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза радыкальных зменаў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, забеспячэння на гэтай аснове незваротнасці перабудовы, абуджэння ініцыятывы, таленту, дэмакратычнай і нацыянальнай свядомасці народу, абароны ад намаганняў бюракратыі сарваць працэс абнаўлення грамадства, затармазіць развіццё дэмакратыі і публічнасці ў рэспубліцы. БНФ выступае за перабудову грамадства на прынцыпах дэмакратыі, гуманізму і сацыяльнай справядлівасці, за стварэнне прававой дзяржавы, за адраджэнне ленінскіх прынцыпаў нацыянальнай палітыкі, за рэальны суверэнітэт Беларусі, асвешчаны Канстытуцыяй БССР. БНФ — гэта масавы грамадска-палітычны рух, які бачыць сваю найвышэйшую мэту ва ўсталяванні народаўладдзя і адраджэння беларускай нацыі,... дзейнічае ў межах Канстытуцыі БССР і аб'ядноўвае людзей

(Працяг на стар. 6)

Са спадчыны

### „ВЕРШ ДАГЭТУЛЬ НЕАПУБЛІКАВАНЫ"

У публічнай лекцыі з 1925 года ў Вільні Антон Луцкевіч успамінае пра верш Л. Родзевіча з 1915 года „дагэтуль яшчэ неапублікаваны" (не дапушчаны да публікацыі цэнзурай). Гэту лекцыю пад загалоўкам „Вільня ў беларускай літаратуры" Антон Луцкевіч змясціў у сваёй кніжцы „Адбітае жыццё", Вільня 1929 год, стар. 133, 134. Загалоўка самога твора Л. Родзевіча Антон Луцкевіч аднак не падае. І хоць верш гэты быў фактычна ім апублікаваны 60 гадоў назад, але ў кніжцы, мала каму вядомай (і цяжка зараз яе знайсці), — публікуем гэты твор як „верш дагэтуль неапублікаваны".

Аляксандра Бергман



Верш Л. Родзевіча

Юнака мяне, дамаседа,
Вільня звабіла красой,
моцай веды;
Пасланцом быў беларускіх
палёў —
Заняпаўшых, забраных,
Каб прыдбаці здзяйсненне
іх сноў
Аб краю каханым.
Тут пазнаў Беларусь
шматпакутную,
Падпольную і творчую,
Душу яе магутную,
Сялянска-рабочую.
Тут пачатак пуціны маёй,
Па якой непахісна іду
Не адзін — з грамадой,
К вызваленню,
Адраджэнню,
К свабодзе, суду
Над крывава-кайданным
мінулым.
Беларусь — Вільня —
Скарына — „Наша Ніва" —
Луцкевіч,
Стаяць нераздзельна, шчыльна;
Як дарагі кожнай душэ вы,
Што ўзрасла на вузкіх гонях,
Што ў мазолістых далонях
Беларушчыну моцна трымае
Для росквіту краю!..
Катаржна-гаротны час,
Край заходні наш!
Так трывала церпіць, змагае,
Бо сталіцаю Вільню мае!

*Аўтар верша*

 

## НА МЯЖЫ

Андрэй Ланцужок славіўся сваімі жартамі не толькі ў роднай вёсцы Парубы, але і далёка па-за яе межамі. Многія жыхары Парубаў і аколіц сталі ахвярамі яго бязлітасных жартаў. Бадай што найбольшую славу здабыў ён прыблізна пяць гадоў пасля вайны, калі прайшоў праз Парубы з мяшком за плячыма, выпханым чымсьці моцна рагатым. Калі жыхары Парубаў пыталі яго, што нясе з лесу ў мяшку, Ланцужок доўга аднекваўся і ўрэшце ціхком сказаў суседу Зміцеру:

— Нікому не гаварыў, але табе скажу. Толькі, барані Божа, нікому не паўтарай. Справа, бачыш, у тым, што ў Міхалове на пункце скупкі скупляюць конскія косці і плацяць за кілаграм у дзесяць разоў болей, чым за кілаграм збожжа.

Зміцера як бы ўджаліла раптоўна дзесяць ядавітых гадзюк.

— А навошта ім гэтыя косці?

— Дакладна не ведаю, але здаецца, што з іх прадукуюць нейкае вельмі важнае лякарства.

Зміцер кінуўся ў хлеўчык, запрог гнядога і панёсся як найхутчэй у лес, на конскія могілкі. Пабачыў там чалавек дзесяць суседзяў, якія грузілі на воз косці. Фурманак усё прыбывала, пайшлі ў рух лапаты. Пад вечар усе вазы былі нагружаны касцямі. Сяляне правялі невялічкі сход і рашылі ехаць прадаваць назаўтра зрання.

У Міхалове спаткала іх расчараванне. Усюды, куды яны толькі не накіроўваліся, гналі іх у шыю і насміхаліся. Урэшце пасвятлела ў іх галовах. Зразумелі, што Ланцужок злосна зажартаваў над імі. Махаючы кулакамі і скрыгочучы зубамі, паехалі з Міхалова дамоў. Праехаўшы кіламетраў пяць, выкінулі нягодныя косці. Не праехалі наступных пяці кіламетраў, як дагнаў іх міхалоўскі камендант. Затрымаў усіх, аштрафаваў і загадаў забраць косці. Ад'язджаючы, крыкнуў:

— Капусныя галовы. Дурны Ланцужок вас ашукаў. Не хапае вам палітычнай асветы.

Сяляне селі на вазы і нізка апусцілі галовы. Павезлі косці назад на конскія могілкі. Ідэю бязлітаснай помсты Ланцужку адкінулі. Вырашылі, што лепш нічога нікому не гаварыць і аб усім як найхутчэй забыць.

Другі незабыўны эпізод, які назаўсёды ўвайшоў у гісторыю Парубаў, разыграўся на два гады пазней. На гэты раз ахвярай ланцужковай хітрасці стаў камендант.

### НАВУКОВЫЯ ЭКСПЕРЫМЕНТЫ

Раніцай у нядзельку Ланцужок наеўся капусты, гароху і кіслага малака. Набраў пустых бутэлек і дэманстрацыйна на вачах усіх парубаўцаў пайшоў у акалічны лясок, дзе рассеўся і пачаў стругаць коркі да бутэлек. Калі гарох, капуста і кіслае малако пачалі дзейнічаць, Ланцужок пачаў бздзець у бутэлькі і замыкаць іх коркамі. Невядома, хто і калі паведаміў міліцыю аб тым, што Ланцужок рыхтуе ў лесе бомбы. Часы былі яшчэ неспакойныя, паяўляліся ў аколіцы банды, якія грабілі і забівалі. Даведаўшыся аб справе, камендант падумаў, што трапіў на след злачыннай тэрарысцкай арганізацыі. На чале аперацыйнай групы ў грузавіку і „вілісе" панёсся ён у Парубы.

Не даехаўшы да лясочка метраў дзвесце, камендант затрымаў машыну і павёў міліцыянераў у атаку.

— Не забіваць, браць жывымі. Страляць толькі тады, калі пачне кідаць бомбы!

У хуткім часе персцень акружэння замкнуўся, і камендант голасам нямой казы крыкнуў:

— Ланцужок, здавайся, а то будзе каюк!

— Здаюся, здаюся, хлопчыкі, падыходзьце, — пачуўся спакойны голас Ланцужка.

Крыху здзіўлены такім абаротам справы, камендант зноў крыкнуў:

— Адсунься ад бомбаў. Калі толькі працягнеш рукі ў іх бок, куля ў лоб!

— Добра, хлопчыкі, добра, не буду іх кранаць, падыходзьце.

Камендант, акрылены такім эфектам, асцярожна падыйшоў да Ланцужка і, не спускаючы з яго аўтамат, спытаў:

— Ну, што, Ланцужок, бомбы прадукуем?

— Ану, прадукуем, — адказаў спакойна Ланцужок.

Камендант пачаў аглядаць бутэлькі і, не ўбачыўшы у іх ні толу, ні запальнікаў, здзівіўся:

— А дзе ж у іх, Ланцужок, запальнікі?

— Не патрэбны яны, пане камендант, гэта самапалы.

Збіты з панталыку, камендант не ведаў, што рабіць далей.

— А вось я па іх праеду з аўтамата?!

— Ні ў якім выпадку, пане камендант, атравіце асяроддзе!

Каменданту было не па сабе, не ведаў, як тут паступіць.

— Ну, як яны дзейнічаюць?

— Яны, пане камендант, бяспечныя, калі іх паволі адкрываць, а калі гвалтоўна, — катастрофа.

Гаворачы гэта, Ланцужок узяў адну бутэльку, падыйшоў да каменданта і пачаў яе памаленьку адкрываць. Вакол разыйшоўся моцна непрыемны смурод. Камендант пачаў гадаць: іпрыт ці адамсіт? Пахла гэта неяк не мілітарна, але па-свойску, і нешта каменданту моцна нагадвала.

Урэшце, зусім разгубіўшыся, паклікаў ён да сябе міліцыянераў, тых, што прайшлі нядаўна антыгазавы курс у Гданьску, і загадаў адкрыць бутэлькі. Адзін з іх, адкрыўшы бутэльку, крыкнуў:

— Пане камендант, ды гэта ж не баявы газ, а звычайнае чалавечае бздо!

Камендант пабялеў ад злосці.

— Прызнайся, сукін сын, набздзеў у бутэлькі?

— Набздзеў, пане камендант.

— А ты ведаеш, што табе за гэта пагражае?

— Нічога не пагражае. Нідзе не сказана, што Андрэй Ланцужок не мае права займацца навуковымі эксперыментамі.

Камендант то чырванеў, то бялеў. Патаптаўшыся на месцы, крыкнуў голасам дзікай начной птушкі:

— Па машынах...

У Парубах машыны затрымаліся. Камендант моцна хацеў даведацца, хто яго ўвёў у зман. Сяляне ўсміхаліся, а адзін, асмеліўшыся, сказаў:

— Пане камендант, дурны Ланцужок вас ашукаў. Не хапае вам палітычный асветы.

У гэты момант па сярэдзіне вуліцы крочыў, беручы пад казырок, Ланцужок і званіў бутэлькамі.

**Алесь Барскі**

## СВЯТА Ў ТАПАЛІНЕ

На нядзелю, 23 ліпеня, у Мельніку быў запланаваны народны фэст у гонар 45-ай гадавіны ПНР і 70-годдзя БССР. Арганізатарамі гэтага мерапрыемства былі мясцовыя гмінныя ўлады і Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Па дарозе ў Мельнік наша машына абагнала аўтобус з самадзейнікамі, якія спяшаліся, каб не спазніцца з канцэртам. У Тапаліне, прыгожай далінцы, распалажанай над самым Бугам, чакаў ужо начальнік гміны Ян Здуневіч з мясцовым актывам. Вакол пляцоўкі, перад якой красаваўся надпіс „22 ліпеня — Свята Адраджэння Польшчы" і рэялі сцягі, збіраліся групкамі дарослыя і дзеці. Калі аўтобус з самадзейнікамі праехаў па сонных вуліцах гміннага цэнтра і накіраваўся ў Тапаліна (гэта быў яўны знак, што фэст зараз пачнецца) ад Мельніка пачало ісці штораз больш народу. З'ехаліся аўтамашыны з марожаным, напіткамі і пячэннем. Заспяшаліся аматары піва, даведаўшыся, што тут будзе яно прадавацца. Але піва прадавалі пасля канцэрта і прыйшлося півалюбам паглядзець цэлую праграму.

З невялікім спазненнем пачалася афіцыйная частка ўрачыстасці. Адкрыў яе і прывітаў прысутных Міхал Валендзюк, намеснік старшыні Гміннага камітэта ЗСЛ. Затым з прамовай, звязанай з 45-ай гадавінай узнікнення Польскай Народнай Рэспублікі, выступіў старшыня Гміннай гады нарадовай Міраслаў Капелька. Ад імя БГКТ прамаўляў старшыня Галоўнага праўлення Аляксандр Баршчэўскі. У сваім выступленні сказаў ён аб пераўтварэннях, якія адбыліся ў мінулым Народнай Польшчы і Савецкай Беларусі, аб сённяшняй палітычнай і грамадскай сітуацыі ў абедзвюх краінах, прыблізіў прысутным праблемы, якія хвалююць беларускае насельніцтва Беласточчыны і БГКТ.

Пасля прамоў арганізатары папрасілі нашых самадзейнікаў даць канцэрт. Са спевам і пад гукі гармоніка Віктара Леанкевіча жанчыны з Дашоў, Чаромхі-вёскі і Вулькі-Тэрахоўскай увайшлі на сцэну. І хаця калектывы былі ў няпоўным складзе (не ўсе жанчыны змаглі пакінуць тэрміновыя працы ў полі), то праграма была цікавай, і канцэрт атрымаўся адмысловы. Зацікаўленне гледачоў выклікалі таксама новыя народныя ўборы спявачак. Са сцэны паплылі па-над Бугам мясцовыя беларускія фальклорныя песні, характэрныя для вёсак паўднёвай Беласточчыны. Жанчынам дапамагалі сваімі галасамі Славамір Місеюк і Міхал Насковіч, а ролю канферансье паспяхова выконваў нястомны Міхась Вішанка.

Канцэрт працягваўся больш за гадзіну, а вакол эстрады сабралася чалавек трыста. Мала гэта ці многа? Аказваецца, што не так і мала. Вядомы ў мельніцкім асяроддзі дзеяч, зараз кіраўнік Гміннага цэнтра ідэйна-выхаваўчай працы ПАРП Віталій Снежка паінфармаваў, што Мельнік мае тыя ж самыя дэмаграфічныя праблемы, як і іншыя мясцовасці на няслаўнай „усходняй сцяне". Яшчэ некалькі гадоў таму назад у Мельніку было 1200 пастаянных жыхароў, а зараз іх толькі дзевяцьсот. Здавалася б, што Мельнік — гэта даволі атракцыйная мясцовасць, якой не павінна пагражаць абезлюдненне. Тут, апрача працы на гаспадарцы, можна знайсці занятак у крэйдавым кар'еры ці на нафтаправодзе „Дружба" ў непадалёкім Адамаве. Нядаўна былі адкрыты залежы мінеральнай вады, што дае мясцовасці перспектыву стаць турыстычна-курортным цэнтрам. Зараз вядуцца падрыхтоўчыя працы да пабудовы газаправода. Ёсць тут і кіно, і рэстаран, а таксама сетка паслуговых пунктаў. Праз Мельнік праходзіць турыстычны шлях. Аднак жа пералічаныя прываблівыя адметнасці не так ужо і атракцыйныя, каб затрымаць міграцыю. Моладзь не хоча звязваць свой лёс з вёскай і далей накіроўваецца ў гарады.

Народных спевакоў падмяніў на эстрадзе маладзёжны аркестр. З электронных інструментаў паплылі вострыя, моцныя гукі рок-музыкі. У Тапаліна з'язджаліся хлопцы і дзяўчаты з аколіцы. Пачыналася вясковая забава.

**В. Луба**



 

# ГДАНЬСКАЯ ХРОНІКА

22 чэрвеня 1989 года закончыўся чарговы год нашай культурна-асветніцкай працы ў гданьскім беларускім асяроддзі. Што мы зрабілі праз гэты час? Адказам на гэтае пытанне няхай будзе апісанне найважнейшых здарэнняў з нашага жыцця.

**Урокі беларускай мовы**

Найбольшы наш поспех — гэта штотыднёвыя ўрокі беларускай мовы для дзяцей. Калі мы пастанавілі ўвесці ўрокі ў студзені 1988 года, ніхто з нас не быў аптымістам. Цяпер цешыць нас прысутнасць дзяцей у клубе і ахвота, з якой сюды прыходзяць. Мы выдалі толькі восем пасведчанняў аб заканчэнні школьнага года, але усё ж такі ёсць надзея, што ў верасні прыбудзе ў нас вучняў. Трэба сказаць, што ўдзел ва ўроках добраахвотны.

У дзяцей паявілася беларуская нацыянальная свядомасць і гордасць. На ўроках Аня Іванюк грамадска вучыць роднай мове, літаратуры і гісторыі Беларусі. Пасля ўрокаў Ірэк Лаўрашук (студэнт Музычнай Акадэміі) расспеўвае нашых дзетак. Трэба тут нізка пакланіцца бацькам, якія з розных месцаў Гданьска, Гдыні і Сопату пасылаюць да нас дзяцей кожную пятніцу вечарам і дапамагаюць, як могуць, каб дзеці і мы адчувалі сябе добра, як у сям'і. Заўсёды ёсць чаёк і салодкі пачастунак. Такіх настаўнікаў, такіх бацькоў і вучняў можа нам пазайздросціць кожная школа. Аб гэтым сведчыць хаця б удзел нашых дзяцей у конкурсах: дэкламатарскім і беларускай песні для пачатковых школ. У дэкламатарскім конкурсе ўдалося Касі Мацкевіч заняць I месца, а Лідзіі Чурак — II месца і атрымаць ўзнагароду „Зоркі". Паспяхова выступіла таксама вучаніца II класа Агата Глагоўская. У конкурсе беларускай песні ў Бельску-Падляшскім наш дзіцячы калектыў заняў II месца. Падрыхтоўка да конкурсу не абмяжоўвалася толькі ўрокамі. Сама падборка рэпертуару заняла ў нас многа часу. Мы рыхтуем вучняў не толькі да конкурсаў. У снежні 1988 года на св. Мікалая і ў гонар 1000-годдзя хрышчэння Русі ў святліцы пры царкве ў Гданьску дзеці спявалі песні і дэкламавалі патрыятычна-рэлігійныя вершы А. Зязюлі, К. Сваяка, Н. Арсенневай. Усіх узрушылі словы верша:

*Божа, што калісь народы*
*на асобкі падзяліў*
*і хацеў, каб народ кожны*
*мовай роднай гаварыў,*
*узглянь жа на народ*
*бязвольны*
*беларускі, што к табе*
*голас ціхі, паднявольны*
*ў пакорнай шле мальбе.*


*Аня Іванюк і Міхась Куптэль з дзецьмі, якія вывучаюць беларускую мову.*

Чарговай падзеяй была ёлка ў клубе (27.I.1989) і ў святліцы пры царкве (19.II.1989). Дзеці апрача вершаў і песень, выступілі з п'есай „Зайкава хатка", сцэнарый да якой паводле беларускай народнай казкі напісала я і Аня Іванюк. У клуб прыйшоў таксама беларускі Дзед Мароз і раздаваў дзецям падарункі.

15 красавіка 1989 нашыя дзяўчаткі — удзельніцы дэкламатарскага конкурсу пад лозунгам „Беларуская прырода" наладзілі вечарыну. Госцем нашым была супрацоўніца Педагагічнага інстытута з Мінска, якая зараз працуе лектарам рускай мовы ў Савецкім доме культуры і навукі ў Гданьску. Падарыла яна прыгожы альбом „Край блакітных азёр".

Вельмі ўрачыста адсвяткавалі мы Дзень дзіцяці (2.VI.1989). Зрабілі ўсё, каб вечар быў сапраўды святам дзіцячай радасці і забавы. Эва Паўлюк прынесла свае цацкі з дзяцінства на ўзнагароды ў конкурсах. А падрыхтавалі мы іх даволі многа, каб усе ахвотныя маглі прыняць удзел і добра пагуляць. Ірэк Лаўрашук зафундаваў усім марожанае. Вучні беларускай мовы выступілі для бацькоў і дзяцей з мастацкай праграмай. Перад салодкім пачастункам быў конкурс малюнкаў пад лозунгам „Мая мама", каб неяк напомніць і пра нядаўняе Свята Маці. Аўтары найпрыгажэйшых прац атрымалі кніжныя ўзнагароды.

16 чэрвеня 1989 года адбыўся апошні ўрок беларускай мовы і ўрачыстае заканчэнне школьнага года. Дзеці атрымалі ацэнкі і пасведчанні, якія запраектаваў і выканаў Міхась Куптэль.

Шкада толькі, што ўсё не хапае ў нас падручнікаў і дзіцячай літаратуры. Нават на ўроках дзеці не маюць магчымасці карыстацца падручнікамі. Дошку пазычылі нам сябры-украінцы. Хоць з дапамогай нам прыйшла: Міністэрства адукацыі БССР, якое ў адказ на нашае пісьмо прыслала па адным падручніку для 1-4 класаў, а таксама настаўніца беларускай мовы з Орлі Анна Шыманская і сябры з гродзенскай „Паходні", навучанню сапраўды далёка яшчэ да нармальнасці.

(Працяг на стар. 11)


*Ірыней Лаўрашук і яго малыя спевакі.*

слова яго мела глыбокі сэнс і было ўсебакова ўзважана. Спадзяючыся, што раней ці пазней гэты даклад і найбольш істотныя выступленні на З'ездзе будуць поўнасцю або часткова апублікаваны ў „Ніве" ці „Беларускім календары", абмяжуюся адной цытатай з даклада: „Мы за такую дзяржаву, у якой свабодны народ адчуваў бы сябе гаспадаром сваёй зямлі і ўласнага лёсу. Мы за тое грамадства, у якім не марнуецца чалавечая праца, не нішчыцца народная зямля, культура і мова, дзе свабода сумлення, дзе дзеці шануюць бацькоў, а маткі сваіх дзяцей, мы за грамадства, якое гарантуе будучыню сваім грамадзянам". На З'ездзе выступілі з канструктыўнымі прамовамі дзесяткі дэлегатаў, гасцей, прадстаўнікі народных франтоў Літвы, Латвіі, Эстоніі, Азербайджана, Украіны, тэлеграмы прыйшлі з Масквы, Тбілісі і іншых гарадоў. Іх слухала больш сотні замежных і з розных савецкіх рэспублік журналістаў, транслІравала літоўскае радыё і тэлебачанне, фільмавала некалькі груп дакументалістаў. З'езд быў надзвычай працавіты і дасканала арганізаваны, панавала на ім нейкая асаблівая, унутраная, свядомая дысцыпліна, якая не дапусціла да зрыву работы дэлегатаў насланымі правакатарамі, а спробаў звесці на нішто, і перш за ўсё перашкодзіць прыняццю асноўных дакументаў — статуту, праграмы, рэзалюцый, выбару ўладаў „Адраджэння" — было не мала. Найбольш нахабна быў атакаваны статут, бо непрыняццё яго абазначала б крах З'езда. Але наперакор усім злым моцам статут, пасля каля чатырохгадзіннага змагання, быў прыняты амаль апоўначы 24 чэрвеня.

Наступны дзень — гэта яшчэ больш інтэнсіўная работа З'езда над выпрацаваннем і прыняццём Праграмы БНФ, больш за дзесяць рэзалюцый, выбары Сойму як найвышэйшай улады „Адраджэння" паміж з'ездамі, а таксама іншых выбарных органаў. У выніку праведзеных згодна з усімі правіламі дэмакратызму тайных выбараў сярод спіску з 82 кандыдатаў быў выбраны 55-асабовы Сойм. Старшынёй Сойму выбраны **Зянон Пазняк**, яго намеснікамі **Міхась Ткачоў** (Гародня) і **Юры Хадыка** (Мінск). У перапынку З'езда адбылася першая сесія Сойму, на якой быў выпрацаваны Зварот да народаў СССР і краінаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які быў прадстаўлены З'езду і аднагалосна ім прыняты.

У перапынках выступаў вядомы ва ўсёй Беларусі пясняр-бард Сяржук Сокалаў-Воюш, яго песня „Фронт", у якой, між іншым, гаворыцца: „Фронт! Фронт! Фронт! Ён маё і тваё абуджэнне; ён народу майго адраджэнне!" стаў гімнам З'езда. Удзельнікі прасілі спевака выконваць яго некалькі разоў, спявалі, стоячы, разам з ім. У фае і на калідорах юнакі і дзяўчаты прадавалі нелегальныя газеты, часопісы, лістоўкі — дзесяткі выданняў, самых разнастайных па зместу і форме. Агромністыя стосы іх уміг расхопліваліся ўдзельнікамі З'езда. Калі варожыя Устаноўчаму з'езду сілы арганізавалі ў адлеглым раёне Вільні мітынг, правадыры якога дамагаліся разгону нашага З'езда, па закліку З. Пазняка з залы выбегла некалькі дзесяткаў юнакоў і ўтварылі навокал палаца ахоўную старожу. Ворагі не спрабавалі атакаваць З'езд.

Заканчэнне Устаноўчага З'езда „Адраджэння" пераўтварылася ў кранальную патрыятычную маніфестацыю: у зале густа залуналі нацыянальныя беларускія, літоўскія, латышскія, эстонскія, украінскія, яўрэйскія сцягі і харугвы з нацыянальнымі гербамі. Увесь З'езд, стоячы, як малітву, як гімн праспяваў Багдановічаву „Пагоню", а святар, узняўшы над галовамі прысутных раскрытае Свяшчэннае Пісанне, благаславіў дзейнасць Беларускага народнага фронту за перабудову „Адраджэнне". Старэйшыя плакалі, абдымаліся са слязьмі радасці, што ім пашчасціла дажыць моманту, калі з памершай уваскрасае Беларусь. Маладыя ж, як у час усяго З'езда, гэтак і цяпер, штораз то ўзносілі гучны кліч: „Жыве Беларусь!" і ўся зала зрывалася на ногі, уздымала заціснутыя кулакі і грымела: „Жыве!"

Гэты велічны гістарычны акт закончыўся познім вечарам 25 чэрвеня 1989 г. Калі мы, яго ўдзельнікі, спяшаліся на цягнікі і аўтобусы ў розныя мясціны Беларусі, нас запыталі літоўскія сябры і, далікатна кранаючы на нашых грудзях значкі з Пагоняй і надпісам „Жыве Беларусь" ды бел-чырвона-белыя банцікі, казалі: „Шчаслiва вам, браты! Мы з вамі заўсёды — ад Вітаўта і да апошняга тхнення!"

**Мікола Гайдук**
Фота аўтара

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




Дзяўчаткі з вакальна-інструментальнага калектыву „Зярняткі“ з Пашкоўшчыны.

Фота Я. Чэрнякевіч.

### ЯКУЦКАЯ КАЗКА

**Пачатак у папярэднім нумары.**

Сем стэрхаў, сем белых журавак пасярод шырокага двара апусціліся. Шкуркі з пер'ем на канавязь кінулі, дзяўчаткамі парабіліся.

Залюбаваўся на іх Юджыян. Усе дзяўчаты прыгожыя, а адна — тая, што шкурку з краю канавязі павесіла, — за ўсіх астатніх прыгажэйшая. Дурэюць-весяляцца, бегаюць дзяўчаты-жураўкі, яна хутчэй за ўсіх бяжыць. Скачуць-танцуюць, яна лягчэй за ўсіх нагамі пераступае, быццам і да зямлі не дакранаецца. І малалетка Хаджугур усё бліжэй да яе трымаецца, усё з ёю стараецца пагуляць.

Пачаў дзень да вечара хіліцца, дзяўчаты Хаджугуру кажуць:

— Хутка твой брат вернецца, пара нам ляцець!

Юджыян у шчыліне сядзіць, думае-разважае: „Аднак праўду казаў брат-малалетка. Я і сам не прыкмеціў, як дзень да вечара пражыў — нібыта дзівосны сон убачыў!“

Дзяўчаты да канавязі падыходзяць, рукі да шкурак-апратак працягваюць. А Юджыян раней за іх бліскавіцай прыскакаў. Каля самай канавязі ў самога сябе перакінуўся, схапіў шкурку, што з краю вісела.

Шэсць стэрхаў, шэсць белых жураўлёў да неба ўзнімаюцца. Адна дзяўчына на зямлю кідаецца, просіць-моліць паляўнічага аддаць ёй шкурку. Не аддае ёй Юджыян шкурку, гэтак кажа:

— Я на цябе ўвесь дзень глядзеў, табою любаваўся. Цяпер ты на мяне паглядзі. Калі не падабаюся табе, бяры шкурку, ляці куды хочаш. Калі падабаюся, заставайся, будзеш маёю жонкаю.

Скрозь слёзы паглядзела на паляўнічага дзяўчына. Высахлі ў яе слёзы, усміхнулася яму.

— Застануся, — ціха сказала.

Юджыян пытаецца:

— А што са шкуркай зрабіць? У юрце на жэрдку павесіць ці ў агонь кінуць?

Збялела дзяўчына.

— У агонь не кідай! Кепска мне будзе. І ў юрце не вешай — вясновым днём пацягне мяне ў неба, пра ўсё забудуся, цябе не пашкадую, сябе не пашкадую. Палячу прэч адсюль! Схавай яе так, каб нічые рукі яе не чапалі, нічыё вока не бачыла.




Юджыян шкурку з белым пер'ем у акаваны жалезам куфар схаваў. Куфар на тры замкі замкнуў. Ключы на калок каля дзвярэй павесіў.

Добра зажылі Юджыян з красуняю. Раніцай прачынаюцца — добрым словам вітаюцца. Жонка мужа на паляванне збірае, плача, быццам на век тыя праводзіны. Увечары Юджыян дадому бяжыць, нібыта год з жонкаю не бачыўся.

У юрце заўсёды чыста прыбрана, прыветлівы агонь гарыць — не згасае, жывёла накормлена, двор падмецены.

Адно кепска — Хаджугур-хлапчук зусім ад рук адбіўся. Раней дамашняя работа ўся на ім ляжала, цяпер маладая нявестка ўсё робіць. Цэлы дзень бегае Хаджугур, забаўкі сабе прыдумляе. Восень так мінула, і зіма скончылася.

Аднойчы пайшла красуня на ваду. Падышла да ракі і забылася, чаго прыйшла. Ад яснага неба і вада засінела, пеўчыя птушкі гнёзды віць пачынаюць. Цвіце ўсё. Доўга гэтак яна прастаяла, нарэшце схапілася, вады набрала, дадому панесла.

А без яе вось што здарылася. Хлопчык Хаджугур даўно ўжо задумаў паляўнічым стаць, брату памочнікам. А Юджыян усё адгаворвае: малы яшчэ, з лука страляць не ўмееш. Памятае Хаджугур: быў дзесьці ў брата стары лук са стрэламі, а куды падзеўся, не ведае. Вось каб знайсці ды ўпотай страляць навучыцца! От бы Юджыян здзівіўся!

Усю юрту Хаджугур перавярнуў, ва ўсе куткі заглянуў — няма нідзе лука.

„Ці не ў куфры хавае?“ — падумаў.

Зняў з калка тры ключы, адамкнуў тры замкі, падняў цяжкае века. Лука не знайшоў, стрэлаў не знайшоў, а ўбачыў жураўліную шкурку з белым пер'ем. Дастаў яе, пачаў разглядаць — якія прыгожыя пёркі!

Тут нявестка ўвайшла. Спынілася, глядзіць.

— Дай мне шкурку! — сказала.

Голас у яе быццам не свой зрабіўся, быццам журавель далёка-далёка ў небе затрубіў.

Хаджугур шкурку за спіну схаваў.

— Не дам, — кажа. — Юджыян нездарма яе ў куфар замкнуў. Гэта я незнарок яе ўзяў,

(Працяг на стар. 10)

## Вершы Віктара Шведа

### НА СКРЫЖАВАННІ ВУЛІЦ

На скрыжаванні вуліц
Просьба: — Ты мой сынок,
Перавядзі бабулю
На процілеглы бок.

— Чырвань, — сынок
марудзіць, —
Праходу тут няма.
— Зялёнае як будзе —
Прайду я і сама!

### ГЛЯДЗІЦЬ ПЕЦЯ Ў ВОЧЫ НЕБЯСПЕЦЫ

Настаўнік запытаў на ўроку:
— Скажы, Пятрусь, чаму
за партай
Не адрываеш свайго зроку,
Так на мяне глядзіш упарта?

Адказвае на гэта Пеця:
— Вы ж паўтараеце часамі,
Што найстрашнейшай
небяспецы
Трэба глядзець у вочы прама.

### ЖЫВЕ ДЗЕДКА З МАЛАЛЕТКАМ

— Ці ты, Янка-малалетка, —
Хлопцы пачалі пытацца, —
Не баішся толькі з дзедкам
Цэлы месяц заставацца?

— Я ж у дзедкі толькі госцем
Вольнай летняю парою,
І здзіўляюся, чагосьці
Ён баіцца жыць са мною.

### БАЮСЯ

— Працуе ва ўстанове татка,
Каб толькі мне ўсяго хапіла,
Працуе ў хаце мая матка,
І для мяне ўсе траціць сілы.

— Табе так добра ў роднай хаце,
Чаго ж баішся ты, хлапчына?
— Баюся, што татулька, маці,
Могуць мяне калісь пакінуць.

### ШАВЕЦ БЕЗ БОТАЎ ХОДЗІЦЬ

— Добры з цябе хлапец,
Ды крыху дзіўны часам.
Хоць бацька твой шавец,
Ты ходзіш без абцасаў.

— А бацька твой ізноў
Зубны нядрэнны лекар.
Ты ходзіш без зубоў,
Як быццам бы калека.

### ТЭЛЕГЛЯДАЧ

— Ты ля экрана зрок
Патраціш, мой сынок.
Калі ў экран улез —
Пайшла навука ў лес.
Як думаеш ты жыць,
І кім ты хочаш быць?
Хачу быць ноччу, днём
Тэлегледачом.

### ЛЁВА ЧЫТАЕ І ЕСЦЬ АДНАЧАСОВА

Вынаходлівага Лёву
Калегі пачалі пытаць:
— Як гэта ты адначасова
Можаш і есці і чытаць?

— Дык гэта, хлопцы, вельмі
лёгка, —
Пачаў тлумачыць Лёва ім. —
Калі ем толькі адным вокам,
Тады чытаць магу другім.




(Працяг са стар. 9)

зараз назад пакладу.

— Дай хоць патрымаць, — просіць красуня. — Я табе свае залатыя падвескі падару.

— Я не дзяўчынка! Навошта мне залатыя падвескі?

— Я табе пояс падару, серабром вышываны.

— Не патрэбен мужчыну жаночы пояс.

— Я табе нож за шкурку ададам. З узорным дзяржаннем нож, у аздобленых ножнах.

Заблішчэлі ў Хаджугура вочы.

— Нож паляўнічаму самы раз! — сказаў хлопчык. — Давай! — схапіў нож, шпурнуў нявестцы шкурку.

Накінула яна шкурку сабе на плечы, белай жураўкай зрабілася. Выйшла на двор, доўгімі нагамі асцярожна пераступае. Крыламі ўзмахнуць баіцца: хаця б не адарвалі яе ад зямлі, не панеслі ў неба. Юджын на ёй сумаваць будзе, і яна без яго з тугі змарнее.

Хацела ўжо шкурку скінуць, ды пачула жураўліны кліч. Шэсць стэрхаў кругамі над юртай кружаць, клічуць яе з сабою. Падскочыла яна, з тужлівым крыкам шырокія крылы распасцерла.

Працяг будзе.

Ірына Салавей

### ЯК ВЕСІКА НАВУЧЫЛІ МЫЦЦА

Жыў сабе хлопчык, як усе. Любіў бабулю, маму, тату, сястру. Любіў хадзіць на рэчку, па грыбы, есці цукеркі і піць аранжаду. Прыгожы быў хлопчык, але не любіў мыцца.

Усе перад сном мыюцца, а Весік крычыць, плача:

— Не хачу мыцца! Не буду-у!

Заўсёды ўтраіх мылі Весіка. Мучыліся штовечар і бабуля, і мама, і тата.

А сястра Люся аднойчы сказала:

— Трэба зрабіць так, каб Весік сам захацеў мыцца!

—А як гэта зрабіць? — усклікнула мама.

— Няхай кладзецца спаць, як хоча, а калі заснe, дык накладзем на яго коўдраў і будзем чакаць, што далей будзе.

— Я даўно ўжо думала так зрабіць, але ўсё адкладвала, — сказала мама. — Зробім гэта, дачушка, сёння.

Вечарам усе памыліся, а ў Весіка мама спытала:

— Мыцца будзеш?

— Не хачу! — крыкнуў хлопчык.

— Добра, — згадзілася мама, — кладзіся спаць так.

Калі Весік заснуў, мама прыкрыла яго рознымі коўдрамі.

Праз гадзіну Весік абудзіўся і пачаў крычаць:

— Ой, мама! Мне так цяжка! Я не маю чым дыхаць! Горача!

— Не крычы. Сам вінаваты, — супакоіла яго мама. — Ты не памыўся, а цяпер цябе бруд душыць! Як будзеш спаць не мытым, можа і задушыць!

— Ой, не! Я жыць хачу! Мый мяне, мама! Хутчэй мый!

Пасля мыцця Весік хутка заснуў.

Цяпер штовечар Весік мыецца сам.

### ПАЗНАЁМІМСЯ

ССРР, 346523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Баррикадная, 4, кв. 3. Дегальцеву Саше. (4 клас).

* * *

БССР, 220131, г. Мінск, вул. Міршнічэнкі, 13, кв. 71. Кісялёвай Олі. (14 год).

* * *

БССР, 220131, г. Мінск, вул. Міршнічэнкі, 15, кв. 196. Камянецкай Наташы. (6 клас).

## малюнкі школьнікаў



Ілюстрацыю да казкі „Ліса-кума" прыслаў у „Зорку" Томаш Федарук, вучань другога класа з Храбалоў.



Іра Евюк і Малгажата Такаюк — салісткі калектыву „Беларусачкі" з Дашоў. Фота Я. Чэрнякевіч.

Мікола Бусько

### КАЗКА-ЗАГАДКА

Калоссямі жыта
Цягнулася ў неба...
Паклаў яго, зблытаў
Прыблуднік ганебны.
— Хто гэта, скажы нам? —
Траву, як наўмысна,
Нібыта спружынай
Да долу прыцісну.
На ўсім панадворку
Тварыў беспарадкі,
Падняў пыл да зорак,
Пагойсаў па градках.
То раптам злым воўкам
Завые працягла,
То дыму вяроўку
Ён з коміна цягне.
Навобмацак, спехам
Звязаўшы сіло,
Відаць не для ўцехі
Памчаў за сяло.
Круціўся на месцы
З паперкамі шпарка.
Ад страху аж месяц
Схаваўся за хмарку.
Казалі мне:
мігам
Адсюль, напраскі
Пабег цераз выган
Да сіняй ракі.
У лес, цераз поле
Памчаўся імкліва,
Каб душу здаволіць,
Стог тузаў за грыву.
А раптам яшчэ як
Ва ўсю зарагоча!
Злавіць для Кашчэя
Жар-птушачку хоча.
А Нёман уздыбіў
Нябачнай рукою,
Аж бліскала рыба
У паветры лускою.
Надрэчныя чайкі
Наўзрыд галасілі
I болей спрачацца
Не мелі ўжо сілы.
Пабег па карчэўі —
Кара адлятала.
Насупраць знячэўку
Сцяна лесу ўстала.
Пачуўшы той рогат,
Лясун бездакорны
Сыпнуў на разлогі
Расіначак-зораў.
Як мухі абліплі
Ягоныя крылы —
Рвануўся з усхліпам —
Ды сіл не хапіла.
Пагнаўся сабакам
За ўласным хвастом...
Бы хмарка, заплакаў
I лёг за кустом.
Адразу над светам
Зрабілася ціха...

— Скажыце, хто гэта?
— А гэта быў
ВІХАР.

## Вясёлы куточак

* * *

Малая Верачка першы раз была з мамай на балеце. Ідучы дадому, мама пацікавілася, як Верачцы спадабалася пастаноўка.

— Музыка была вельмі прыгожая, людзі прыгожа былі адзетыя, і ўсё было вельмі каляровае. Толькі чаму тыя дзяўчынкі так стараліся танцаваць на пальчыках? Ці не маглі вышэйшых знайсці?

* * *

Старая бабуля сядзела на вакзале і чакала свайго поезда. Каля яе побач сядзеў малады чалавек. Яму было сумна і ён жаваў гуму. Бабуля паглядвала на яго ад часу да часу і ківала галавою.

Калі ж гадзіннік на сцяне паказаў дзевяць, бабуля ўстала і сказала:

— Мне здаецца, што вы добры чалавек. Вы прабавалі мне нешта цікавае расказаць, але я глухая і мічога не чую, бо я ўжо старая. Але дзякую вам за гэта...

* * *

— Колькі ў цябе братоў?

— Адзін.

— А чаму твая сястра гаворыць, што ў яе два браты?

* * *

— Ці ты сапраўды ведаеш, кім для цябе з'яўляецца сястра тваёй цёткі?

— Пэўна, што ведаю. Гэта мая мама. А я — яе дарагі сын.

### А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А




„Ніва" 20.VIII.1989 г. Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка"

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) Піша ў „Ніву". 7) Народнае паданне. 8) Граніца. 11) Калі яго не ўпішаш, будзе ён у крыжаванцы. 12) Поўная медыкаментаў. 14) Чацвёра выканаўцаў. 16) Маладая. 18) Настаўнік спартсменаў. 21) Усё вакол нас. 24) Нямнога большая за Еўропу. 26) Апарат, які працуе без чалавека. 27) Твой родны кут.

**Уніз:** 1) Працуе на полі ў калектыве. 2) „Суперсмех". 3) Грыб, які можа быць на целе ад удару. 4) Арафат. 5) Багатая жанчына на карце. 6) Складаецца з ручкі і ляза. 9) Жыве над Ленай. 10) Самадзейнасць. 13) У судзе напісаны, у тэатры пастаўлены. 15) Адзінка вымярэння магутнасці электрычнага току. 17) Коцяцца на іх колы. 19) Папраўка на негатыве фотаздымка. 20) Маркс і Энгельс. 22) Узор са сплеценых ліній. 23) Упакоўка, або яе вага. 25) На поўдзень ад Канады.

„ядаль"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 28.**

**Упоперак:** прыклад, гадзюка, прыгажуня, пюрэ, ямка, пытанне, рэпка, Пінск, шып, армада, Еўропа, рэч, анучa, іслам, красуня, курс, мяжа, парцэляна, Амерыка, маларус.

**Уніз:** пашпарт, купэ, ажыны, Асуан, змяя, аўчарка, малады, рэпертуар, манаполія, падарак, епархія, шар, печ, падкова, эксцэс, амбарас, Рурык, Ніяса, спор, мара.



## ЗДЗІВІУ

— Чуў, брат Алесь:
Памёр Вінцэсь.
— Калі? Так нечакана!
— Сягоння рана.
— Што ж гэта стала:
Такога з ім ніколі не бывала.

Мікола Грышан

# НІЎКА



— Вы парушылі шостую запаведзь, а я парушу пятую!

# АФАРЫЗМЫ

Героі патрэбныя ў небяспечных абставінах, ва ўсіх іншых героі з'яўляюцца небяспечнымі.

* * *

Вырашылі калектыўна, каб думаць індывідуальна.

* * *

Цывілізацыя: эскімосы атрымоўваюць цёплыя кватэры і вымушаны працаваць, каб зарабіць грошы на халадзільнікі.

* * *

Гэта паклёп, што газеты не прымушаюць сваіх чытачоў думаць. Друкуюць жа крыжаванкі.

Габрыель Ляўб

## ЗАКАХАНЫ ДЗЕД

Я скажу вам па сакрэту:
Пакахаў мой дзед Магрэту,
Хоча з бабкай развадзіцца
І з Магрэтаю жаніцца.
Ён купіў усё для шлюбу:
І вэлюм для сваёй любай,
Залатыя завушніцы,
Дзве замежныя спадніцы,
А сам ходзіць з таго часу
На высоценькіх абцасах —
І прапаў радыкуліт
І падагра, і бранхіт.
Падлячыла дзеда зелле:
Яго ўласнае вяселле.
Толькі дзед не знаў пра гэта,
Што каханая Магрэта,
Метка біла па мішэні,
Поўнай дзедавай кішэні,
А калі было там пуста,
Дзед мой быў ёй не па густу —
Гонам гнала дзеда з хаты,
Да старой яго Агаты,
Называла жабраком,
Старым дурнем і смарчком,
І такой яшчэ абразы,
Дзед не чуў ў жыцці ні разу,
Бо забыў, што стары друг,
Лепш, напэўна, новых двух.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вось патрапіў дзед у нерат,
Што ні ўзад яму, ні ўперад.

Аляксандра Елісеенка



— Прабачце, ці я вас не напалохала?

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ЛЯЦЕЛА ЗЯЗЮЛЯ
(народная)

Ляцела зязюля
З гары на даліну,
Каля мае хатачкі
Села на каліну.*

Села на каліну,
Стала кукаваці,
Малада дзяўчыначка
Стала сумаваці:

Чаго ты, зязюля,
Рана так кукуеш,
А ці ж ты, зязюлечка,
Гора мае чуеш?

— Каб я не чувала,
Я б не кукавала,
Табе маладзесенькай
Жалю б не давала.

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.




*

Жанчына познім вечарам ідзе каля могільніка і раптам заўважае нейкага чалавека.
— Прабачце, — кажа яна, — можна пайсці разам з вамі, мне страшна.
— Вядома, мадам.
— Вялікае вам дзякуй! А вы самі баіцеся хадзіць па такіх месцах?
— Баяўся, пакуль быў жывы...

*

Галоўны хірург пытаецца задыхаўшагася хворага:
— Чаму вы ўцяклі з аперацыйнай залы?
— Таму, што сястра сказала: „Прашу без панікі! Аперацыя апендыцыта самая лёгкая..."
— Ну і што? Гэта сапраўды так!..
— Але яна сказала гэта не мне, а маладому хірургу са скальпелем!

*

— Чаму вы спрачаецеся з кліентам? Няўжо не ведаеце, што кліент заўсёды мае рацыю?
— Ведаю, але той пераканаы, што не мае рацыі!

*

— Гэтая сукенка для вас велікаватая, — заўважае прадаўшчыца.
— Вось і добра, муж падумае, што я пахудзела.




Пачуцце, што ўсе мы паміж сабой браты, часта прымушае нас сварыцца з-за спадчыны.